# ІСКРЫ ІЛЬІЧА



СЕРГЕЙ МІРОНАВІЧ КІРАЎ



# СЕРГЕЙ МІРОНАВІЧ
# КІРАЎ

1 снежня загінуў ад кулі ворага рабочага класа Сергей Міронавіч Кіраў— адзін з лепшых ленінцаў, друг і саратнік вялікага Сталіна.

30 гадоў Кіраў працаваў у партыі.

Да рэволюцыі разам з другімі большэвікамі ён гуртаваў рабочых на змаганне супроць капіталістаў і памешчыкаў.

У час рэволюцыі Кіраў вёў рабочых у бой супроць Дзенікіна і другіх царскіх генералаў.

Апошнія 9 гадоў свайго жыцця ён працаваў у Ленінградзе. Кіраў з'яўляўся сакратаром Ленінградскага абласнога камітэта партыі, а з гэтага года і сакратаром ЦК ВКП(б).

Смерць Кірава — цяжкая ўтрата для партыі і ўсіх працоўных.

Уся совецкая краіна з глыбокім жалем хавала дарагога, любімага таварыша Кірава. І ўся совецкая краіна заявіла:

**— Смерць ворагам-забойцам! Яшчэ цясней згуртуемся вакол партыі і вялікага Сталіна! Справу, за якую змагаўся і аддаў сваё жыццё Кіраў, мы давядзем да канца!**



ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКОМАСВЕТЫ
ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ
ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ МАЛОДШАГА ЎЗРОСТУ
Снежань 1934 № 12

# КІРАЎ І ДЗЕЦІ

Таварыш Кіраў любіў дзяцей, дружыў з імі і клапаціўся аб іх. Ён пісаў рэбятам пісьмы, вучыў іх, хадзіў у школы і атрады, цікавіўся, як рэбята вучацца.

У дні вялікай жалобы дзеці Ленінграда, Масквы і ўсяго Саюза далі клятву—прадаўжаць справу свайго любімага друга, лепш вучыцца, каб стаць такімі ленінцамі, якім быў таварыш Кіраў.



Таварыш Кіраў сярод Ленінградскіх піонераў.



## Я ЦВЁРДА ЗАПОМНІЛА ЯГО СЛОВЫ

Я—окцябронак. Вучуся ў 2-й школе Валадарскага раёна (г. Ленінград). У гэтым годзе я сустрэлася з таварышам Кіравым 7 лістапада, на пляцы Урыцкага.

Кіраў паклікаў да сябе піонераў з завода № 23. Пачаў з намі гутарыць, цікавіўся, як мы вучымся. Рэбята расказалі, якія ў іх адзнакі па вучобе. Я таксама расказала Сергею Міронавічу, што ў мяне за першую чвэртку адна адзнака „вельмі добра", пяць „добра" і пяць „здавальняюча".

Сергей Міронавіч сказаў мне, што мае адзнакі не вельмі добрыя, што трэба мець усе—„добра".

У канцы гутаркі мы аддалі таварышу Кіраву салют. Я цвёрда запомніла яго словы і пастараюся выканаць яго наказ.

НЭЛІ ДВОРНІКАВА

## ТВАЯ СПРАВА ЖЫВЕ Ў НАШЫХ СЭРЦАХ

Усяго толькі за некалькі дзён да смерці таварыша Кірава піонеры Бугроўскага сельсовета пісалі яму:

— Дарагі Сергей Міронавіч, мы хочам прысвоіць тваё імя нашаму клубу. Мы цябе, Сергей Міронавіч, хоць дзе пазнаем, у нас у клубе вісіць твой партрэт. Чакаем цябе да нас у госці, а мы да твайго прыезда падрыхтуемся на „вельмі добра".

Але Кіраў не прыехаў... Куля ворага рабочага класа спыніла яго слаўнае жыццё.

І бугроўскія піонеры са слязамі на вачах напісалі развітальнае пісьмо таварышу Кіраву:

— Не хапае слоў, каб выказаць наша гора. Няма слоў, каб выказаць нашу ненавісць да ворагаў-забойцаў.

Не ўдалося табе, Сергей Міронавіч, пабыць у нас у гасцях. Не ўдалося нам убачыць цябе ў жывых. Дык хай-жа пачатая табою справа жыве ў нашых сэрцах!

Піонеры базы імя Кірава (Бугроўскі сельсовет, Ленінградская вобласць).



# ПЕРШЫ СНЕГ

верш
В. Маракова, Т. Кляшторнага і А. Дудара

Малюнкі Ціхановіча В.

Дзе лясы,
дзе воўчы перабег,
лебядзіным пухам
першы снег
лёг на голле дрэваў,
на палі.
І здаецца сосны—
расцвілі.
Заіскрыўся
пышны самацвет,
дзе лясы,
дзе хітры воўчы след.
Пчолы не лятуць
на сенажаць,
больш мядзведзю мёд
не каштаваць,
галаву ён ніжай
апусціў—
дзікіх пчол мядзведзю
не знайсці.
Апусцеў і лес
і сенажаць,
і мядзведзь залёг
ад гора спаць.
Смокча лапу ён
і бачыць сны,



так праспіць
да самае вясны.
Дзеці ў лес
на лыжах пабягуць,
звонкі смех па лесе
разнясуць.
Будзе снег пад лыжамі
рыпець,
не пачуе гэтага
мядзведзь.
Будуць дзеці
жартаваць і пець,
не пачуе гэтага
мядзведзь.
Будзе лес
шумець і шалясцець,
не пачуе й гэтага
мядзведзь.
Будзе снег іскрысты
зіхацець,
не пабачыць гэтага
мядзведзь.
Дзе лясы,
дзе воўчы перабег,
заіскрыўся першы
лёгкі снег.



# Зіма

Зімовы дзень тчэ анталяжы,*)
Зімовы дзень узоры тчэ
З той серабрыста-белай пражы,
Што ў кроснах не была яшчэ.

Юнацтва дзень праводзіць ў школе,
Каб мудрасці шляхі прайсці, —
Яно гартуе дух і здольнасць,
Каб месца знаць сваё ў жыцці.

Зімовы вечар — рух і гоман!
Зімовы вечар — суятня!
Як добра, выбраўшыся з дому,
З гары прамчацца на санях!

Зімой іскрыцца даляў снежнасць,
Зімой дарога — нібы шкло!
Канькі, каток — адна бязмежнасць,
А ў грудзях — жар і весялосць!

Зіма! Зіма! Ў прастор на лыжах!
Зіма! Зіма! Мароз трашчыць!
Скачок адзін — і далі бліжай
І радасць ў сэрцы больш гучыць!

Не страшыць холад сэрцам юных,
Не страшыць холад маладых!
Заўжды для іх рунеюць руні,
А ў зімні час цвітудь сады.

А. ГУРЛО.

*) Мярэжы, карункі.



# Як мы лятаплі.

Апавяданне В. Каваля
Малюнкі М. Беляніцкага

I

Я і Федзька—таварышы. Мы ўжо зусім дарослыя. Нам па 10 гадоў. Скора мы пакінем нашу вёску, школу, бацькоў і паедзем. Мы станем вялікімі следапытамі. Яшчэ невядома куды паедзем: мажа на Поўнач, у тайгу, а мажа на Поўдзень, у пустыню.

Гэта наша тайна. Мы далі адзін аднаму суровую клятву глыбока захоўваць тайну. Але Федзьку не церпіцца. Ён забывае і часта хваліцца перад рэбятамі:

— А мы з Сёмкам,—з гордасцю кажа ён, падшморгваючы носам,—скора паедзем біць мядзведзяў і кракадзілаў...

— Хлусіш, — смяюцца з яго рэбяты. —Бацька табе задасць такога кракадзіла, што ты нікуды не захочаш ехаць...

— А вот і паеду...

Федзька дужа ўпарты. Але пра яго намер даведаўся бацька і надраў за вушы.

— Я табе пакажу кракадзілаў!

— Усёроўна ўцяку...—паабяцаў Федзька бацьку.

Мы такі будзем следапытамі! Мы толькі не ведаем, на чым нам так далёка паехаць.

Гэтым летам прыехаў у госці ў нашу вёску Федзькаў дзядзька Максім Гайдай. Ён служыў у Чырвонай арміі і быў адважным лётчыкам. Ён расказваў нам дзіўныя штукі пра самалёты. У нас ад захаплення кружыліся галовы.

— А ці страшна лятаць на гэтым самалёце?—запытаўся Федзька.

Максім адказаў, што яму зусім не страшна. Тады Федзька падумаў і сказаў мне:

— Давай паляцім на самалёце. А то на паравозе ці на кані вельмі-ж далёка туды ехаць...

Я згадзіўся. А Федзька і тут не вытрымаў, каб не пахваліцца:

— Мы з Сёмкам будзем самымі лепшымі самалётчыкамі. Мы заляцім на самалёце яшчэ вышэй за цябе, дзядзька Максім.

— Малайцы, — пахваліў нас дзядзька Максім. — Добра вучыцеся, падрастайце, а потым паступайце ў лётную школу...

Адважны лётчык Максім Гайдай паехаў, а мы з Федзькам засталіся марыць пра наш незвычайны палёт.

Нам вельмі хацелася лятаць. Бо калі мы не навучымся лятаць, дык не зможам паехаць ні ў тайгу, ні ў пустыню. Мы часта снілі, што лятаем. У сне гэта было вельмі проста. Я станавіўся на цыпачкі, падскакваў угору, размахваў рукамі, нібы крыллямі, і ляцеў, ляцеў.

Я ляцеў у тумане, вышэй хат. Я кружыўся над вёскай, а потым лёганька апускаўся на зямлю.

Федзька адзін раз сніў нават, што ён лятаў на самалёце разам з мядзведзем і кракадзілам...

II

Наш сусед, дзед Сівоха, аднаго разу навучыў нас:

— Калі хочаце лятаць, дык я вас навучу... Цяпер я ўжо стары, сам не магу лятаць, а калі быў маладым, дык лятаў—на чым-бы вы думалі?

Мы падступіліся бліжэй да дзеда.

— На веніках лятаў,—сказаў дзед і хітравата ўсміхнуўся...

— На веніках? А ты, дзед, не маніш?

— Ну, во,—раззлаваўся дзед.—Каб я ды маніў! Я браў венікі, падвязваў пад пахі, узлазіў на страху або на дрэва—і махаў імі, як крыллямі... А то яшчэ можна так: узяць двух гусей, звязаць іх вяровачкай і з дрэва або страхі ляці, браце ты мой, хоць вярсту.

Дзед закурыў люльку і ўсміхнуўся ў сівыя вусы.

— Калі ты, дзед, не маніш, дык гэта праўда,—сказаў Федзька, а мне паведаміў:



—Калі хочаце лятаць, дык я вас навучу,—сказаў дзед.

— Дзед справядлівы, але-ж і хітры, умее маніць. Як пачне расказваць казку, дык хоць цэлую ноч слухай яго...

Пра венікі мы, вядома, не паверылі, а на гусях рашылі зрабіць пробны палёт. Мы злавілі каля рэчкі двух гусей—самых вялікіх і здаровых. Яны аказаліся гусямі дзеда Сівохі; у нас сваіх не было.

„За гэта дзед не будзе на нас злаваць, бо ён-жа і сам некалі лятаў", рашылі мы.

Мы ўзнеслі гусей па лесніцах на страху лазні. Гусі гагаталі, як ашалелыя, балюча кусалі за рукі. Прыбегла нават цэлае стада іх, абкружылі лазню і справілі такі крык, што я трошкі спалохаўся быў.

— А можа не будзем лятаць?—сказаў я.

— Трус!—крыкнуў на мяне Федзька і аж войкнуў ад болю: гусак дзеўбануў яму ў лоб...

Мы перавязалі гусей вяровачкаю, і Федзька першы захацеў паляцець. Я не супярэчыў: ён быў смялей за мяне.

Вочы ў Федзькі гарэлі. Я зайздросціў яму. Мы паднялі гусей вышэй галавы і выпусцілі з рук. У гэты міг Федзька схапіўся за вяровачку, якой яны былі звязаны за ногі. Гусі нешта дзіка залапаталі, замахалі крыллямі і кінуліся са страхі. Я не ўбачыў, як падаў Федзька, бо толькі ён збіраўся ляцець, як я пачуў крык дзеда Сівохі. Дзед бег з двара і размахваў дубцом. Я скаціўся са страхі. А ў гэты час Федзька ўжо ляжаў на зямлі, а навокал яго гагаталі гусі і стараліся ўшчыкнуць за што папала.

— Уставай, Федзька,—крыкнуў я,—дзед Сівоха бяжыць. Уцякайма!

Федзька мігам ускочыў і, кульгаючы на адну нагу, пабег услед за мной праз рэчку.

— Ух, нагу ўдарыў, каб на яго...—скардзіўся Федзька, трымаючыся за калена.

Ужо далёка за рэчкаю, у кустах, мы азірнуліся. Дзед Сівоха смешна скакаў на адным месцы і пагражаў нам дубцом.

— Я вам, я вам пакажу, як лятаць на чужых гусях!..

Няўдача першага палёта не зламала Федзькавай упартасці. Толькі зараз ён стаў думаць ужо аб сапраўдных самалётах.

Увосень, калі мы пайшлі ў школу, Федзька напісаў свайму дзядзьку Максіму ліст.

— Дзядзечка родны, вазьмі мяне з сабою. Ты не ведаеш, як мне хочацца навучыцца лятаць. Я цябе ва ўсім буду слухацца. Я табе і машыну буду даглядаць і матор накручваць...“

Скора Федзька атрымаў ад дзядзькі ліст. Ён чытаў яго ў школе па некалькі разоў. І хоць у лісце было напісана, што дзядзька зараз не можа ўзяць яго з сабою, але Федзька не сумаваў.

— Слаўны ў мяне дзядзька. Кажа, добра вучыся, а тады, як падрасцеш, вазьму з сабою... Эх, і палячу-ж я!..

Мы ўсе зайздросцілі Федзьку.

III

З таго часу прайшло больш 10 гадоў. Я пакінуў вёску і паехаў вучыцца ў горад. Трохі пазьней паехаў да дзядзькі Максіма і Федзька.



Гусі стараліся ўшчыкнуць Федзьку за што папала.

Мы некалькі гадоў не бачылі адзін аднаго. Пра Федзьку я нічога не чуў. Я не стаў лётчыкам. Мы з Федзькам не паляцелі ні ў пустыню, ні ў тайгу. Мы не сталі следапытамі. Ад усяго гэтага застаўся толькі далёкі ўспамін.

І калі я ўспамінаў Федзьку, мне зноў хацелася лятаць. Я зноў сніў пра крыллі. Я зайздросціў пілотам, якія адважна штурмуюць неба. Мне хацелася ўбачыць Федзьку. І вось аднаго разу я спаткаў яго на вуліцы ў Менску.

Гэта быў ужо не той Федзька, які некалі лятаў на гусях. Гэта быў стройны белакуры хлапец у новай лётчыцкай форме. Я чуць пазнаў яго.

Мы вельмі ўзрадваліся. Мы ўспомнілі наша маленства.

— Ну, што, едзем у пустыню?—жартуючы, спытаў я...

— Едзем!—сказаў ён.—Цяпер на сваім самалёце я не толькі ў пустыню—я магу абляцець увесь свет. Я праляцеў ужо тысячы кілометраў... Хочаш, пакатаю на самалёце?

— Хачу,—сказаў я...

Мы прышлі на аэрадром, дзе працаваў Федзя. У час, вызначаны для палёта, Федзя вывеў з ангара свой самалёт, на якім быў надпіс „Комсамолец“. Ён увесь blішчаў на сонцы. Федзя ўсміхаўся, горды за сваю машыну. На ёй Федзя развозіў пошту ў самыя далёкія куткі нашай краіны.

— Не бойся,—сказаў ён мне.—сядай. Эх, і паляцім-жа мы!..

Загудзеў матор. Я сеў у кабінку і прывязаўся рамнямі. Я трошкі хваляваўся. А ў Федзькі быў спакойны, нават вясёлы твар.

Раптам самалёт сарваўся з месца, прабег некалькі сажняў па аэрадрому і ціха ўзняўся ўгору.

— Трымайся, Сёмка!—заглушаючы вецер, крыкнуў мне Федзя.—Мы паляцім высока...

У вушах звінеў вецер. У мяне з непрывычкі злёгку кружылася галава. Федзя, кіруючы самалётам, абарачваўся да мяне:

— Ляцім, Сёмка!

Мы кружылі над горадам. Каля нас праплывалі светлыя воблачкі. Унізе ляжала зямля. Федзя ціханька напяваў нейкую песеньку...



# Прыгоды ката

Жыў ды быў чацвёрты год
У старой бабулькі кот.
Спрытна мышак ён лавіў,
Шкоды быццам не рабіў,
Бегаў, спаў, або гуляў
І ўнучатак забаўляў.
— Добры кот!—не раз аб ім
Гаварыла бабка ўсім.

* * *

Неяк бабка са стала
Збан смятаны прыняла...
„Хай у сенцах пастаіць—
Трэба дзеткам масла збіць.
Толькі-б кот не ўлез які!
Бо мой коцік не такі:
Ён не ласы у мяне
І смятанкі не кране!“
Ажно вышла ды не так:
Кот пачуў адразу смак!
Толькі бабка за парог—
Ён з усіх кашачых ног
На ўслончык мігам—скок!
Нахіліў к сабе збанок,
Ды смятану лык-лык-лык!
А збанок з пад носу—брык!
Пакаціўся—і капут!
Кот спалохаўся—і ў кут.

* * *

На дварэ-ж у гэты час,
З будкі вылезшы якраз,
Руды ціханька сядзеў
І уважліва глядзеў:
„Можа злодзей або кот
Будуць лезці церaз плот?
Разарву у пяць хвілін—
Бабка дасць за гэта блін!“
Раптам чуе: у сенях
Нешта грукнула—бабах!
Хвост загнуўшы кілбасой,
Руды кінуўся стралой...
„Ці не злодзей завітаў?
Як-жа гэта я праспаў?
Усё роўна не ўцячы!“
Думаў цюцька бегучы.
Ён у сенцы... Аж дарма—
Нікагусенькі няма!
Руды нюх—туды, сюды—
Не знайсці ніяк сляды!
Перанюхаў кожны кут—
Ані званечка і тут!
„Што за ліха? Дзівата—
Ні зладзеяў, ніката!“
Няужо-ж я стаў сляпы?
Раптам бачыць—чарапы!
Эге-ге! Напэўна мыш
З лавы скінула гладыш?
І, здаецца, не пусты,
Бо кісель ці мел густы
Навакола, як ракаў?
Ўсуну кончык языка...
Трэба крышку паспытаць!
І Руды пачаў хлябаць...
Кісялёк прышоўся ў смак.
Ой, заўсёды-б есці так!
Лепш за бульбу, за гарох,
Малако, або тварог...

* * *

Неўзаметку час мінуў—
Руды нават не пачуў,
Як бабулька з памялом
Ў сенцы ўскочыла бягом...
Раптам нехта па спіне
Памялом як разане—
Бедны Руды аж самлеў
І на куртачкі прысеў.
Што-ж я кепскага зрабіў?
Чым старую угнявіў?
А старая сыпле ўслед:
„Ах ты, злодзей, дармаед!
Я ўжо думала не раз—
Хто у нас смятане лас?
Бо не раз ужо збанок
Аб падлогу—кок ды кок!
Гэта ты!? Бо кот... бо кот...
Ён смятаны ані ў рот!“

* * *

Бабка Рудага ўзяла,
На падворак завяла



І адразу на ланцуг,—
Хай паловіць, злодзей, мух!
Будзе доўга памятаць,
Як гладышыкі скідаць,
Ды ў смятану соваць нос...
Каб ты веку не дарос!
Каб ты выдах! Каб ты скіс!
А дзе-ж коцік? Кіс-кіс-кіс!
Кот з куточка зразу—шух!
Да бабулькі пад фартух.
І давай спяваць: „мур-мур!
Я ад мышак і ад кур
Тваю хатачку сцярог—
Не пускаў іх на парог“...
Бабка з печы цягне блін...
Блін і нават не адзін:
Два ці тры, калі не пяць,
Каб катка пачаставаць.
Потым блін ў смятану—мак!
Але коцік аніяк
Не бярэ, не есць блінца
Ні з пачатку, ні з канца...
Што-ж ты, коцік, захварэў?—
Ці мышэй з дзесятак з'еў?—
Ледзь не плача бабка:—ой!
Бедны, бедны коцік мой!
Песціць, гладзіць па спіне...
— Што-ж рабіць з табою мне?
Доктар! Доктар! Дзе ты, дзе?
Памажы маёй бядзе!“

* * *

Вось і доктар Рыцынпуд...
— Дзе-ж ваш хворы?
— Вось ён, тут!
На падушцы—жоўты кот.
Доктар выслухаў жывот,
Паглядзеў у нос, у рот,
Потым зноў наадварот,
Пульс памацаў і язык,
А тады на бабку ў крык:
— Эх ты, бабка! Твой-жа кот—
Гэта чмут і абармот,
А ў дадатак і ласун!
Бачыш—круціцца, бы ўюн:
Ён аб'еўся—хворы твой!
Не якой-нібудзь брыдой,—
А смятанай! Вось чаму
Блін не лезе ўжо яму!

Вольны пераклад з рускай мовы А. ЗІМІОНКІ



С. Розанаў.

# ЗДАРЭННЕ З ТРАЎКАЙ

I

Траўка—гэта хлопчык. Ён маленькі. Яшчэ вельмі і вельмі не скора будзе Траўка вялікім, і стануць яго важна называць Мітрафанам Трафімавічам або як-небудзь яшчэ. А пакуль завуць Траўкай.

У выхадны дзень бацька паехаў да таварыша па рабоце на дачу катацца на лыжах. Таварыш жыў на дачы зіму і лета. Бацька ўзяў Траўку з сабой. Яны селі на звозчыка. Лыжы трымалі ў каленях. Мама вышла праводзіць іх і сказала бацьку:

— Глядзі-ж хаця, каб нічога не здарылася.

Бацька адказаў: „Добра“, а Траўка прамаўчаў. Ён то ведаў, што нічога не здарыцца.

Звозчык шмаргануў лейцамі і зачмокаў. Ён быў зусім стары, і конік яго таксама быў старэнькі. Яны ехалі вельмі доўга. Але ўсё такі прыехалі на станцыю.

Бацька паставіў лыжы да сценкі і сказаў Траўку.

— Стой тут і чакай мяне. Я пайду браць білеты.

Траўка стаў каля лыж і пачаў глядзець на гадзіннік. Вялікая стрэлка, як на спружынцы, скокнула з аднэй рыскі на другую. Потым пастаяла хвілінку на месцы і зноў—скок! Траўка ніколі не бачыў такіх гадзіннікаў, у якіх стрэлкі скачуць. Ён парашыў канечне запытаць у бацькі пра гэта, а потым расказаць рэбятам.



Траўка стаў каля лыж.

Раптам народу стала яшчэ больш. Траўка ўбачыў бацькаву мехавую лыжную куртку і кінуўся за ёй. Бацька ішоў пад руку з незнаёмай цёткай і аб нечым з ёй гутарыў. Яны спяшаліся. Траўка сказаў:

— Тата, а як-жа лыжы?

Бацькава спіна нешта буркнула ў адказ, і яны яшчэ хутчэй зашагалі разам з цёткай на перон, дзе садзяцца на поезд. Траўка ўчапіўся за бацькаву куртку і пабег за імі.

Калі дайшлі да вагона, бацька сказаў не сваім голасам: „Ну, Пецька, лезь“. Узяў Траўку за руку і хацеў падсадзіць на ступеньку. Але тут Траўка ўбачыў, што гэта зусім не бацька, а нейкі чужы дзядзька з рыжай барадою і ў акулярах. Дзядзька сказаў сярдзіта:

— Адкуль ты, хлопчык? І дзе-ж гэта Пецька?

Ззаду стаяла жанчына, відаць, нянька. У яе на руках сядзеў хлопчык, крыху меншы за Траўку. Нянька закрычала:

— Пецька вось тут! А я гляджу — вы хлопчыка вядзіцё, думаю, знаёмы, ці што?

У гэты час раздаўся свісток, паравоз загудзеў. Поезд пайшоў. На поездзе паехалі рыжы дзядзька, яго знаёмая, Пецька з нянькай і ўсе другія пасажыры. На пероне астаўся толькі начальнік станцыі ў чырвонай шапцы і Траўка.

II

Бацька ўзяў білеты і вярнуўся на тое месца, дзе пакінуў Траўку. Лыжы валяліся пад лаўкай, а хлопчыка не было. У бацькі адразу зашчымела сэрца. Ён глянуў пад лаўку, потым узлез на яе, каб лепш было відаць, і крыкнуў моцна:

— Траўка! Траўка!

Некаторыя пасажыры аглянуліся і засмяяліся. Тоўсты швейцар у сінім пальто з залатым каўняром падышоў да бацькі і сказаў:

— Грамадзянін, нагамі станавіцца не дазваляецца. Злезце з арэхавай меблі.

— Я хлопчыка згубіў. Разумееш, сына. Маленькі такі, на руцэ радзімінка і рот запэцкан чарнільным карандашом. Вы не бачылі?

— Не, не бачыў, — адказаў швейцар.— А крычаць на станцыі таксама не дазваляецца.

Ён павярнуўся і пайшоў да дзвярэй. Бацька кінуўся за ім.

Поезд даўно пайшоў. Бацька агледзеў увесь перон. Траўкі не відаць было. „Ён, канечне, паехаў, — парашыў бацька. — Трэба хутчэй адправіць тэлеграму, каб вярнулі“. Ён, падышоў да вакенца тэлеграфа. Тэлеграфістка дала яму сіні лісток паперы. Бацька напісаў на паперы ўсё, што трэба, заплаціў за кожнае слова па 15 капеек і стаў глядзець, як тэлеграфістка пасылае тэлеграму.

Яна падышла да маленькага століка, на якім стаяла кола. На коле, як на шпульцы, была наматана вузкая палоска паперы. Каля самага кола былі круглыя металічныя каробкі і медная палоска з дзеравянай ручкай. Тэлеграфістка ўзялася за дзеравяную ручку і пачала выстукваць: цік-цік-цік-цііііік-цік-цік-ці...

Атрымалася вось што:

В-ы-п-а-д-к-о-в-а п-а-е-х-а-ў х-л-о-п-ч-ы-к в-я-р-н-і-ц-е б-а-ц-ь-к-а-м.

III

Калі поезд пайшоў і Траўка астаўся адзін, ён затрывожыўся: а што, калі бацька паехаў на дачу і пакінуў яго аднаго? Але-ж гэтага не можа быць. Бацька ніколі-б так не зрабіў.

У гэты час да Траўкі падышоў начальнік станцыі і запытаўся:

— Паслухай, хлопчык, ты што-ж, праводзіў каго-небудзь? Такі малы—і адзін тут-



— Грамадзянін, нагамі станавіцца не дазваляецца!

Траўка залажыў рукі ў кішэні і важна адказаў:

— Я не вельмі малы. Я сярэдні. Мяне бацька нават узяў з сабой катацца на лыжах, але толькі згубіўся.

— Хто згубіўся?

— Мой бацька.

Начальнік станцыі чамусці ўсміхнуўся і сказаў:

— Ну, мы яго зараз-жа знойдзем.

Ён узяў Траўку за руку і павёў праз калітку, на якой было напісана:

„СЛУЖБОВЫ ПРАХОД“.

Начальніка станцыі ўсе ведалі і здароваліся з ім. Ён запытаў швейцара з залатым каўняром пра Траўкінага бацьку.

— Так, так. Бегаў грамадзянін, шукаў хлопчыка. А вось дзе ён дзеўся—гэтага не ведаю.

Другі сторож сказаў:

— Бачыў я твайго бацьку. Лыжы ён узяў і бягом, мусіць на поезд.

Трэба было нешта рабіць зараз-жа. І Траўка сказаў начальніку:

— Таварыш начальнік, дайце мне, калі ласка, дармовы білет да станцыі „Пролетарская“. Адтуль я дарогу ведаю. З правага боку, як сажалку пройдзеш, супроць калгаснай палаткі дача № 16.

Начальнік зноў усміхнуўся, кашлянуў і нарэшце сказаў:

— Дармовых білетаў я даваць не магу. І поезд туды ідзе толькі ўвечары.

— Што-ж мне рабіць? — запытаў Траўка.

Начальнік пачухаў кончык носа, памыкаў і сказаў:

— Ну, добра, скора туды пойдзе службовы паравоз. Пасаджу цябе, завідна паспееш. Не баішся ехаць на паравозе?

— Я нават на аўтамабілі поплеч з шоферам не баюся. І потым я нядаўна трымаў сам лейцы. Мне звозчык даваў.

Начальнік станцыі павёў Траўку праз рэльсы некуды ў бок ад перона. Ісці было трудна. Адзін раз Траўка моцна стукнуўся нагой аб рэльсу. Хацелася заплакаць, але Траўка не заплакаў, а толькі пачухаў нагу.



Яны падышлі да вялікага чорнага паравоза.

— Чаму так многа рэльсаў?—запытаўся ён.

— А гэта таму, што тут многа паяздоў збіраецца. Для кожнага поезда свая дарога. Бачыш, колькі паравозаў стаіць?

— Бачу. А скора наш паравоз?

— Ды вось ён.

Яны падышлі да вялікага чорнага паравоза. У паравозе нешта моцна шыпела. Траўку зрабілася крышку страшна. Ён моцна схваціў начальнікаву руку.

— Ну, ну, не бойся, малыш,—ласкава сказаў начальнік, зусім як бацька, і моцна закрычаў:

— Эй, Белякоў!

— Што скажаце, таварыш начальнік? — запытаўся чорны Белякоў, стараючыся перакрычаць сваю машыну.

— Вось пасажыра табе прывёў. Вазьмі яго з сабою. На „Пролетарскай“ ссадзіш. Толькі глядзі, не згубі, як родны бацька згубіў.

IV

Перад станцыяй „Пролетарская“ падняўся семафор—калі ласка, ёсць для вас вольны шлях.

Белякоў перасунуў ручку, павярнуў кола на машыне, і паравоз павольна спыніўся, але не радам са станцыяй, дзе спыняюцца ўсе паязды, а недзе далёка ў баку.

Траўка хутка зашагаў каля белага будынка станцыі і накіраваўся па дачнай дарозе. Усё было белае. Замест шырокага пясочнага тратуара відаць была вузенькая сцежка. Дачы былі зусім непадобныя на летнія. Летам на тэрасах віселі белыя занавескі. Шмат якіх дач зусім не відаць было з-за зялёных дрэў.

Траўка адышоўся далёка ад станцыі. Калгаснага ларка нідзе не было. Сажалкі таксама.

Сонца спускалася. Стала вельмі холадна. Падзьмуў вецер. Траўку зрабілася страшна і сумна. Ён стаў каля дрэва і заплакаў.

Раптам пачуўся тоненькі галасок:

— Як табе не брыдка, хлопчык? Такі вялікі, а плачаш!

Траўка працёр вочы і ўбачыў перад сабой дзяўчынку, таксама не вельмі маленькую, а сярэднюю. Невядома, адкуль падышла дзяўчынка. Яна цягнула за вяроўку малюсенькія санкі, а ў санках сядзела лялька.

У Траўкі адразу высахлі слёзы. Ён чмыхнуў носам і адказаў:

— Я зусім не плачу...

— А што ты тут робіш?

— Я прыехаў у госці да знаёмых.

— Да якіх знаёмых?

— Да Ізмайлавых.



Траўка ўбачыў перад сабою дзяўчынку.

— А Ізмайлавы паехалі ў горад у тры гадзіны. Яны чакалі гасцей, да іх ніхто не прыехаў. Вось яны і паехалі ў Маскву! Усе паехалі, і дачу на замок заперлі!

У траўкі зноў на вачах паказаліся слёзы, а дзяўчынка, каб суцешыць яго, сказала:

— Хочаш, пойдзем са мной на станцыю.

— Пойдзем,—сказаў Траўка,—толькі спачатку давай пазнаёмімся. Цябе як зваць?

— Мяне завуць Сонечка. А цябе?

— А мяне завуць Траўка.

Яны прышлі на станцыю. Вышаў Сонечкін бацька. Дзеці расказалі яму, як яны сустрэліся, і ўсе Траўкавы прыгоды. Сонечкін бацька паглядзеў на Траўку і сказаў:

— Дык ты, значыць, і ёсць прапаўшы хлопчык? А бацькі па табе непакояцца. Што-ж мне з табой рабіць? Поезд у Маскву пойдзе толькі ў 7 гадзін вечара. Ну, ды нічога, у 9 будзеш дома. А пакуль прыдзецца табе пачакаць у нас.

**(Урыўкі з кніжкі „Прыгоды Траўкі“).**



# МЕЧАНЫ ЗАЯЦ

Апавяданне М. Паслядовіча
Малюнкі І. Давідовіча

I

Гэта быў непарушны шэры камочак. Ляжаў ён, прытаіўшыся між купін непадалёк ад гарода. Міця ледзь не раздушыў яго нагою. Шэры камочак раптам ажыў і пакаціўся па густой зялёнай траве.

— Зая-я-ц! — узрадавана закрычаў Міця і пабег даганяць гэты камочак з даўгімі смешнымі вушамі.

Напалоханае зайчанё пабегла не ў лес, а кінулася да калгаснага гарода. Міця хутка дагнаў яго і схапіў за вушы. Зайчанё затрапяталася і задрыгала нагамі.

— Гэта ты крычаў—заяц?—спытаў Міцяў бацька, выглянуўшы з-за агарожы. Ён уваткнуў у зямлю рыдлёўку, якой абкапваў памідоры, і перагнуўся цераз плот.

Міця паклаў зайчанё на бацькавы рукі. Звярок паслухмяна асеўся на шырокай мужчынскай далоні. Праз якую хвіліну яго правае вуха зашавялілася і натапырылася. Міця здаволена запляскаў у далоні.

— Рахманы зайчык! Не баіцца!

Бацька пагладзіў рукою па зайчыкавай спіне.

— Трэба пусціць яго ў лес. Няхай жыве.

Міцю шкада было расставацца з зайчыкам і ён наважыў не выпускаць яго ў лес. Занёс дахаты, змайстраваў клетку, дастаў зайчыку травы, малака.

Яму зайздросцілі ўсе дзеці. Аж да цямна таўпіліся яны каля клеткі. Завалілі клетку сакавітай канюшынай, зялёнымі бярозавымі атожылкамі. Ціма — старшынёў сын — прапанаваў, каб Міця аддаў зайца яму. За гэта Ціма дасць Міцю дзве вуды, шкелца ад электрычнага ліхтарыка і журнал з цікавымі малюнкамі.

— Не хачу,—адказаў Міця.—Заяц вырасце вялікі...

— Ён-жа нічога не хоча есці! — пачаў хітрыць Ціма.—Ён здохне з голаду. Ужо ледзь дыхае.

Але зайчык сапраўды сумаваў. Ён не дакрануўся ні да малака, ні да травы. Непарушна сядзеў ён у кутку клеткі і зморана шавяліў вусікамі.

На другі дзень апоўдні падышоў да клеткі Цімаў бацька. Ён агледзеў зайчыка і закрычаў:

— Хутчэй нясі яго ў лес, а то здохне. Зараз-жа нясі...

Вялізны ганчак Дасціпны выкручваўся каля клеткі і заядла яхкаў, як-бы гнаў перад сабою дарослага зайца.

— Яго з'есць сабака, калі я выпушчу,— паспрабаваў адгаварыцца Міця. — Па лесе бегаюць сабакі...

— Аднясі яго далёка.

Міця і Ціма згаварыліся, што папросяць калгаснага шофера, каб ён узяў іх у аўтамабіль, калі будзе ехаць на станцыю за ўгнаеннем. Яны адвязуць зайчыка за дзесяць кіламетраў і там пусцяць у вялікім лесе. Тут прышла Міцю думка прывязаць зайчыку за вуха істужку, зрабіць такую адзнаку, па якой-бы яны, калі што здарыцца, маглі аго пазнаць. Узрушаныя, вярнуліся яны ў павець, паціху, каб ніхто не бачыў, прывязалі зайчаняці вузенькую палатняную істужку. Шофер, комсамолец Міхась Козік, згадзіўся на іх просьбу.

Міця павесялеў.

## II

... Мінула лета. Паветра набракла дажджамі, варушылася туманамі. Потым за адну ноч усё пасівела ад інею, цвёрдая зямля гулка загрымела пад калёсамі. Выглянуў аднае раніцы Міця праз акно на двор і весела ўсміхнуўся. На зямлі, на стрэхах, на платах ляжаў спакойны, як халоднае неба, снег. Па снезе пустым прошывам слядоў пахадзіў сабака. Праз двор на загуменне прайшоў са стрэльбай бацька і знік за густым вішнёўнікам.

І вось Міця ўбачыў гэтым днём Мечанага. Была пераменка. Гуллівым натоўпам высыпалі школьнікі на двор. Школа стаяла на водшыбе. Завіхурыўся белымі іскрамі снег. І раптам недзе далёка луснула суха, як шкло, марознае паветра.

Усе апасліва глянулі на шыбы акон.

— Гэта стрэліў Міцяў бацька,—здагадліва сказаў Ціма. — Чуеце, сабака гоніць зайца. А можа воўка?

— Сабака баіцца ваўка.

— Затое воўк баіцца стральца,—усур'ёз адказаў Міця, з гонарам думаючы пра бацьку.—Воўк баіцца бацькі...

У гэтую хвіліну ўсе нешта закрычалі і пачалі паказваць рукамі на поле. Міця аглянуўся. Проста да школы вялікім разгонам ішоў здаравенны заяц. Сухою мукою пыліўся за ім след.

— Сабака бяжыць таксама!

— Сабака не дагоніць зайца!

Заяц, ці ён не чуў выкрыкаў школьнікаў, ці не бачыў іх сваімі касымі вачыма—ішоў проста пад школу. Быў ён лёгкі, як вецер, і ляцеў, як страла.

— Мечаны!

Вузенькая палатняная істужачка то падлятала каля вушэй, то прыліпала да спіны.

— Мечаны! Мечаны!

Гэта крычалі ўжо ўсе школьнікі. Шумнаю гурбою, нібы сустрэўшы даўно бачанага знаёмага, рынуліся яны да зайца. Той раптам, пачуўшы нешта незвычайнае, стаў на



заднія лапы і махнуў у паветры разы два вушамі. За вушамі следам матнулася істужка. Можа гэта было зайцава прывітанне, ці невыказаная ў маленстве падзяка дзецям.

— Мечаны!.. Наш!..—закрычаў Міця.

Зайцавы вушы ўраз паслухмяна ляглі на спіну. Ён асеў, а потым зморана скочыў у бок. Відаць, ён ужо стаміўся. І цяжка яму было выратавацца ад ганчака.

Дасціпны, як звер, скаціўся з узгорка і ўпарта бег па зайцаваму следу. Міця ведаў: Дасціпны не адстане ад Мечанага, пакуль не давядзе яго пад стрэльбу.

— Цюцька, цюцька! — раптам, увесь збялеўшы, рынуўся Міця насустрач сабаку.

Разварочваючы здаровымі лапамі ў бакі снег, Дасціпны горача яхкаў, як-бы казаў небачанаму Міцяваму бацьку: „Я зараз табе яго падганю! Рыхтуй стрэльбу! Заяц ад нас не ўцячэ... Ях-ях-ях!..

— Хапай сабаку за нашыйнік!—махаючы рукамі, крыкнуў і Ціма. — Няхай Мечаны адбяжыць далёка...

Міця ўчапіўся рукамі за нашыйнік і адразу-ж зваліўся з ног. Упаў гарачым тварам у халодны снег. Але нашыйніка не выпусціў. Здаравеннаму Дасціпнаму Міця быў, што пяро. Ён цягнуў Міцю па снезе і стараўся вырвацца. Белыя сняжынкі завіхурыліся каля іх. Яны набіваліся Міцю ў рот, сляпілі вочы. Рукі пачыналі слабець.

Але вось нехта схапіўся за яго ногі, за світку. Сабака стаў. І тады Міця ўбачыў, што яго і Дасціпнага абляпіла шумная гурба школьнікаў. Яны моцна трымалі сабаку. Усімі камандваў Ціма.

Міця ўстаў і атрос з сябе снег.

— Трэба завесці сабаку ў хлявушок, дзе школьныя дровы...

На другой пераменцы Дасціпнага выпусцілі. Той ткнуўся мордай у снег, панюхаў і павольна пабег супроць зайцавага следа ў лес.

Мечаны быў выратаваны. Ён быў ужо далёка.



345

# ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

## якое дрэва самае тоўстае?

Самае таўсцейшае дрэва—каштан.

Ёсць такія каштаны, у якіх ствол упоперак мае да 20 метраў. Калі такога таўсцяка спілаваць, дык на яго пні змесціцца цэлы натоўп людзей.



Эўкаліптавае дрэва мае ўпоперак не больш 8 метраў. Мамантавае—да 11 метраў, а дуб толькі да 7 метраў. Ліпа і то таўсцейшая бывае—9 метраў упоперак. А высокая ёлка зусім тонкая, яе папярочнік не больш за 2 метры—у 10 разоў танчэйшы, як у каштана.

У тоўстым дрэве можна калідор прасекчы і ездзіць на конях праз яго. Такі калідор зроблен у мамантавым дрэве ў Амерыцы. Ездзяць людзі праз дрэва як праз вароты. А дрэва расце сабе і не сохне.

## Звер—злодзей

З усіх звяроў самы жулікаваты—пясец, белая палярная лісіца. Улетку ён шэраваты, зімою—белы, як снег. Толькі нос і вочы чорныя. Есць пясец усё. У далёкай Арктыцы не будзеш пераборлівым, бо з голаду загінеш. Падарожнікі ад яго плачуць. Што ні палажы—усё ўкрадзе. Шапкі, мяшкі, рэмні—усё яму трэба. Нават палкі і нажы крадзе.



Быў такі выпадак. Адзін падарожнік лёг спаць проста на снягу. Лёг ён у шапцы і валёнках. Прачнуўся—ні таго, ні другога. Пясцы ўкралі. Нават шкуру, якую ён пад сябе падаслаў, і тую выцягнулі.

У Нансена—славутага палярнага падарожніка—пясцы ўкралі дрот, кавалак бамбука, многа розных каменняў, засушаны мох. Пасля яны ўкралі ў яго маток нітак. А калі больш не было чаго браць—укралі вялікі тэрмометр.

Гэта было даўно. Але і цяпер яшчэ там, дзе пясцоў не палохаюць, яны смелыя. Уночы проста ў палатку лезуць. І што-небудзь абавязкова ўкрадуць.

Н. ПЛАВІЛЬШЧЫКАЎ.

Цана 30 кап. 1282



# Міша Гультаеў на ўроку геаграфіі



1. Што? Паказаць Чорнае мора?



2. Чорнае мора. Зараз.



3. Ведаў я, дзе яно знаходзіцца.



4. Такое яшчэ яно чорнае, чорнае!



5. Дзе-ж яно?



6. Куды яно падзелася?



7. Што за гісторыя такая!



8. Чэснае слова, няма нідзе.



9. Гэта, напэўна, глобус неправільны.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА". Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25, тэлефон 21.376.

Друкарня імя Сталіна. 10.750 экз. Заказ № 1361. Менгарліт № 7112.